


# ЖНІВО У СЯМЯЦІЧАХ

Незвычайнае гэта было жніво. Адбывалася яно 30 ліпеня г. г. у пасляабедні час, на рынку ў Сямяцічах. Сабраўся натоўп жыхароў горада (пераважна дзеці), пасажыры некалькіх аўтобусаў ПКС і двух міліцыянераў.

А было так:

З трэскам расчыніліся дзверы мясцовага рэстарана і з іх потырч паляцеў «скошаны» саракапяціградуснай «каласок». За ім вышаў другі, падкошаны гэтай жа прыладай. Ён асцярожна ўзяў пад рукі зусім скошанага і пацягнуў яго ў бок скверыка. Палажыўшы яго на траву ён ізноў падаўся ў рэстаран.

— Яшчэ пайшоў піць, — абыякава заўважыў адзін з міліцыянераў.

Але не, раптам ён з'явіўся з другім зрэзаным «каласком» на плячах і павалок яго да першага. Гэты быў зусім непрытомны. Ногі яго бязладна цягнуліся па засмечаным бруку.

— .Ногі падымі, а то абцасы чалавек паадрывае, — параіў нехта. Другі нехта піскліва захіхікаў. На скверыку побач сябе, як снапы, ляжалі два п'яніцы. Над ім гудзеў рой мух. Цесным кругам акружылі іх дзеці. Бліжэй падышлі міліцыянеры. (Усё ж-такі гэта нейкая разрыўка ў іх аднастайнай працы).

Трэці п'яніца знік. Але незадоўга вярнуўся з фурай. Ён пад'ехаў да тых, што ляжалі, і, быццам зарэзаных бараноў паваліў іх у воз. Стукнуўшы лейчынай каняку — паехаў.

— Што гэта за людзі, — звярнуўся я да міліцыянераў.

— Ды гэта браты, з Крупіц.

— А, як называюцца?

— А навошта вам ведаць, як называюцца, іх і так тут усе ведаюць. Звыкліся з імі. І няма тут нічога незвычайнага.

Палічыўшы размову закончанай, міліцыянеры адыйшлі.

Разыходзіліся людзі. З рэпрадуктара павешанага сярод рынку перадавалі радыёперадачу аб барацьбе з алкагалізмам.

ШУЛЯК


Паваліў іх на воз, як зарэзаных бараноў...


...І стукнуўшы лейчынай каняку намагаўся ўцячы перад фотааб'ектывам.

# НАШЫ ДЗЕЦІ

### АПРАЎДАЎСЯ

Бацька — злосны:

— Навошта ты, сынку, ганяеш кароў цераз лубін?

Сын:

— Не, тата, я ганяю цераз жыта.

### РАЗМОВА

— Сколькі твая маці мае курэй,— спытала цётка ў Мішы?

— Тры чырвоныя, чатыры чорныя, тры рабыя і яшчэ некалькі белых.

### РАЗУМНЫ ЎНУЧАК

— Ой, унучак, — кажа бабка, — памрэ твой дзед.

— Нічога, бабуся, бусел другога прынясе.

— Але ж буслы толькі малых дзяцей носяць.

— Не турбуйся, бабуся, бусел табе і старога знойдзе.

А. С.

### НЕ ЎМЕЕ

— Чаму ты так памалу пішаш пісьмо? — пытае ў Васі Толік.

— Бо мой брат яшчэ не ўмее хутка чытаць — адказвае Вася.

А. С.

# ПАСАДЖУ Я КВАСОЛІНУ

Апрацоўка Г. Р. Шырмы.



Пасаджу я квасоліну,
Сама йду да дому,
А мой мілы чорнабрывы
П'е ў карчме з кумою.

Ой, не добра, не хораша,
Мой міленькі, робіш,
Як дзень, як ноч п'янюсенькі
І з кумою ходзіш.

Годзе, мілы чорнабрывы.
І з кумою піці,
Ой, хадземо да доманьку
Вячэру варыці.

— Мая міла, чорнабрыва,
Яшчэ вазьму кварту,
Кума мая харошая
Яшчэ болей варта.

Пад вішнямі, чэрэшнямі
Палягалі спаці, —
Мая міла чорнабрыва,
Не дай людзям знаці!

Я малада, як ягада,
Тады не ўтрывала,
І вышаўшы на вуліцу
Усім людзям сказала.

Там за садам, за гародам
Йшчэ за пералазам
Іскавалі куму з кумам
Ды абое разам.

— За што ж цябе, мой міленькі,
Разам іскавалі?
— То за тое, мая міла,
Што з кумою спалі.

Без подпісу.

# ЗРАЗУМЕЎ

На ўроку рэлігіі ксёндз пытае:

— Чым можна адкупіць грахі?

— Гарэлкай, — выкрыкнуў Коля.

— Дурань, ты, — узлаваўся ксёндз.

— Грахі можна адкупіць пакутай.

А Коля даказвае:

— Прошэ ксёндза, мой тата часта робіць авантуры. Дзядзьку выбіў два зубы, а за літроўку гарэлкі войт выдаў яму пасведчанне маральнасці.

Прыслаў
ПЕЦЯ АБРАМЧУК
Ягаднікі, п-та Старакорнін
Гайнаўскі павет

# ЗМАРНАВАНЫ ЧАС

Кажуць: у час палявых работ кожная хвіліна дарагая. А я Вам скажу, людкі мае мілыя, у сельскай гаспадарцы кожны дзень дарагі.

У гаспадарцы штодзень работы па вушы. Сам чорт не пераробіць. Таму чэрці і баяцца паказацца на гаспадарцы.

Праз цэлы дзень гаспадар і ў полі пагуляе і каля худобы паскача, і на гародзе нахіляецца, і яшчэ нешта зрабіў бы, але ноч перашкодзіць рабоце.

Нажаль некаторыя персоны не даражаць часам селяніна. Асабліва махлююць чужым часам нашыя скупачныя пункты.

На рынку скупшчыкі спяшаюць купіць яйкі і масла — баяцца, каб гаспадары не паспелі прадаць прадуктаў гарадскому насельніцтву — а з прыёмам зерня, мяса і шэрсці зусім не спяшаюць.

Тут ГС манапаліст, а манапалісты, вядомая справа, маюць дыктатарскія замашкі. Вось, напрыклад, паспрабуйце здаць цукровыя буракі. Чарга кіламетрам цягнецца. Увесь дзень селянін сядзіць нудзіцца, а кабылка дрэмле, пакуль яго вялічаства прыёмшчык адпусціць гаспадара.

У нашага суседа барада да пупа вырасла, пакуль вярнуўся са скупачнага пункта. Праўленне ГС і не думае павялічыць колькасць прыёмшчыкаў. Хоць бы на сезон...

А што прыёмшчыкі аб ветлівасці мабыць і не чулі, і не ведаюць, што такая існуе аб гэтым кожны верабей чырыкае. У нас закараніўся погляд, што да сялян можна адносіцца без ветлівасці, таму здагадайцеся самі, якая атмасфера ў скупачных канторах.

Цяпер мусіць вам зразумела, чаму ў сялян кішкі вылазяць, калі патрэбна ехаць у скупачную кантору.

Пакуль селянін пад скупачным пунктам у чэрзе стаіць, разоў дзесяць яго ліхаманка бярэ. Ён гатовы крычаць: «Ратуйце, людзі добрыя, на гаспадарцы работа чакае, а я тут з коньмі пустую». Скажа здачнік, што чакаць часу не мае, а дахаты 20 кіламетраў з гакам, прыёмшчык адкажа: «Не затрымліваю. Прыедзеш тады, калі будзеш мець больш часу».

У нас часта лаюць сялян за невыкананне плана дзяржпаставак, ды не бачаць, што тут яшчэ хтосьці вінаваты, хто схаваўшыся за варохам папер і і людзей не бачыць.

Мы не патрабуем, каб у скупачных пунктах людзей хлебам і соллю спатыкалі, ды гаварылі:

— «Дабра жадаем!» Да гэтага ў нас культура не дарасла. Хацелася б толькі прыспяшыць бег скупачнай машыны.

У канторах скупу паўтараецца прыказка: «час не заяц, не ўцячэ».

Але ёсць і ў нас прыказка — «хто чужога часу не шануе, той у сябе парадку не ведае».

Дзядзька Левань.

# У ВОЛЬНЫ ЧАС



Бабка Аўдоцця ведала добрае грыбовае месца. Але вось яна выбралася ў лес і заблудзілася.

Памажыце бабцы адшукаць правільную дарогу, па якой яна заўсёды хадзіла.